Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№104 (1120) 6 чэрвеня 1995 г. Аўторак | Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. | Тыраж 541649 экз. | Кошт у розніцу — 450 руб.

Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

## Аб скліканні нечарговай семнаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Склікаць нечарговую семнаццатую сесію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання 14 чэрвеня 1995 года ў горадзе Мінску.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.**

30 мая 1995 г., г.Мінск.

## ФАКС

*ФАКТЫ *АРГУМЕНТЫ *КОММЕНТАРИИ *СОБЫТИЯ*

### К премьере ждут китайского премьера

***8 июня в Белорусском национальном художественном музее открывается выставка "Прикладное искусство Китая".***

Накануне официального визита премьера Госсовета КНР г-на Ли Пэна в Республику Беларусь минчане впервые смогут познакомиться с "жемчужинами" прикладного искусства этой древней цивилизации. Китайскую культуру будут представлять более 150 экспонатов, среди которых — воздушные змеи, дворцовые фонари, настенные ковры, изделия из фарфора, нефрита, лаковые росписи, эмали и керамика. Каждый из этих промыслов в Китае имеет тысячелетнюю историю.

**Ирина КОЛОМЕНСКАЯ.**

С ЭТОЙ ГАЗЕТОЙ С ПУТИ НЕ СОБЬЁШЬСЯ!

Рисунок Олега ПОПОВА.

### Трагический пикник в Пролетарской роще

***В Гомеле в минувшее воскресенье вечером во время пикника на берегу Сожа утонули двое из четырех официальных представителей шотландского города-побратима Абердина — заместитель председателя горисполкома г-жа Хьюс и заведующий отделом окружающей среды г-н Макдональд.***

Официальная делегация из Шотландии прибыла в Гомель 1 июня. Представителей страны скоттов принимал председатель Гомельского горисполкома Сергей Шаповалов. Специальным решением N 280 горисполком выделил на прием четырех абердинцев 5,7 миллиона рублей. Ответственность за организацию их пребывания была возложена на заведующего экологическим отделом горисполкома Александра Титова.

Воскресная культурная программа проходила в лучших традициях застойных времен — с выездом на природу, купанием, традиционными шашлыками и спиртным. Добирались к месту отдыха арендованным катером. В числе участников пикника был и первый заместитель председателя горисполкома Владимир Усов, который якобы незадолго до исчезновения купавшихся абердинцев покинул рощу.

Милиция и водолазы обследуют Сож. Поиск затруднен 18-метровой глубиной реки.

**Анатолий ГОТОВЧИЦ.**

### Трещина в "Монолите"?

***Служба контроля администрации Президента Республики Беларусь по Витебской области устроила проверку внешнеэкономической деятельности ПО "Монолит" и выявила факты нанесения ущерба государству.***

Материалы проверки были переданы в УКГБ по Витебской области, а то, в свою очередь, руководствуясь ведомственной подчиненностью, вручило эти документы облпрокуратуре, которая, как стало известно, 24 мая возбудила уголовное дело по факту нанесения должностными лицами экономического ущерба в особо крупных размерах. Ведется следствие.

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

### Найдены гомельские потрошители

***В первый день лета гомельские пожарные, прибывшие по сигналу о загорании в квартире по улице Хмельницкого, обнаружили на месте происшествия трупы хозяйки, ее семилетней дочери, полуторагодовалого сына и местного жителя. Осмотр показал, что тела были с ножевыми ранениями.***

Вчера в редакцию позвонил сотрудник пресс-центра МВД Беларуси и сообщил, что работниками УВД Гомельского облисполкома уже задержаны двое подозреваемых, сознавшихся в совершении этого жестокого преступления: муж и жена. Им нет еще и 30 лет, оба судимы. Он — с марта находился в розыске после побега из спецкомендатуры. Убийство совершили с целью грабежа. Но безусловно все точки расставит только суд.

**Юрий СОКОЛ.**

### Журнал "Медицина" — ваш домашний врач

***До 7 июня продлена подписка на журнал "Медицина". Это единственное в республике издание, учрежденное Белорусской ассоциацией врачей.***

Его особенностью является то, что он состоит как бы из двух частей: "врач" и "пациент". Специалисты найдут здесь для себя ценную информацию по проблемам медицины (организация, финансирование, актуальные вопросы науки и практики, опыт общественных объединений в республике и за рубежом), а остальное население прочитает много интересного в стиле известного журнала "Здоровье".

**Совет Белорусской ассоциации врачей.**

### Водка вновь подорожает

***В очередной раз, с 6 июня, повышаются фиксированные розничные цены на водку белую. Теперь бутылка емкостью 0,5 литра будет стоить на 2 000 рублей больше, 0,7 литра — на 2 800.***

Водку "Пшеничную" и "Столичную" в бутылках 0,5 литра в обычном оформлении можно будет приобрести вместе с посудой за 16 700 рублей. Водка "Московская" и "Русская" соответственно будет стоить 16 500 и 17 000 рублей. "Белая Русь" — 18 100 и 18 600 рублей.

Как сообщили в Комитете цен Минэкономики, решение о подорожании водки принято в связи с увеличением расходов на ее производство и с целью пополнения бюджетных средств.

**Виктор САХАНКОВ.**

### Жара поля не пересушила. Но дождь не помешает

***По предварительным оценкам агрометеорологов, пятидневная жара особо не повлияла на влагообеспеченность полей в преобладающей части территории республики.***

В Витебской области отдельные поля с тяжелыми почвами даже переувлажнены. Здесь, как и в Гродненской, Могилевской и Гомельской областях, за истекший месяц выпало полторы-две нормы осадков. А вот в отдельных районах Минской и Брестской областей дождь "накапал" только 30—70 процентов месячной нормы живительной влаги. И на легких почвах запасы продуктивной влаги снизились до ограниченных. Без хорошего увлажнения озимым зерновым культурам грозит череззерница и пустоколосье.

**Юрий НОЯРОВИЧ.**

### Смертельные лучи

***Страшную жатву пожала жара в Могилевской области. Спасаясь в воде от немилосердного солнца, утонули 13 человек.***

В Шкловском районе отец пытался вытащить попавшую в омут дочку. Погибли оба.

Жертв было бы меньше, если бы хоть кто-нибудь заботился об организации отдыха людей. Но кризис — и на пляжах кризис. А потому прохладу ныне ищут все больше в прибрежных кустах да под речными обрывами, где спасателей не дозовешься.

Погулял в жару и "красный петух". Под Могилевом сгорели военные склады. Самое любопытное, что пожарные пока так и не установили, кому конкретно они принадлежат. А бесхозное, как известно, если не сгниет, так сгорит обязательно.

**Николай ДНЕПРОВ.**

### Угнали, но не продали

***Об этом сообщила вся пресса республики: в Могилеве средь бела дня из-под окон Дома Советов были угнаны "Жигули" 99-й модели, принадлежащие облисполкому. Но в отличие от "Мерседеса" премьера эту машину нашли.***

Оперативники уголовного розыска областного управления внутренних дел отыскали ее на окраине Могилева. Номера были сняты, замки заменены, что свидетельствует о подготовке престижного автомобиля к продаже. Где конкретно она была найдена и установлены ли угонщики, милиция пока держит в секрете.

**Николай ТОЛСТИК.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, РИД.**



Пасля падзеі

## Свята, якое магло б аб'яднаць народ...

Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ, Марыя ЖЫЛІНСКАЯ (фота)

У кожнай краіне ёсць мясціны, якія толькі адным сваім існаваннем падкрэсліваюць велічную гісторыю народа. Нагадайце Барадзіно — і многія мільёны рускіх скажуць: мы там перамаглі, мы адстаялі сваю дзяржаву. Большасць палякаў, літоўцаў скажуць тое ж самае пра Грунвальд. Ёсць такія мясціны і на Беларусі, але, на жаль, да сённяшняга дня яны невядомыя вельмі многім беларусам. І няма нічога дзіўнага ў гэтым, бо стагоддзямі нас адрывалі ад сваіх каранёў, стагоддзямі з нас выбівалі гістарычную памяць і дасягнулі многага. І рэферэндум, які адбыўся нядаўна на нашай зямлі, гэта яшчэ раз яскрава падкрэсліў.

Але наогул адмяніць гісторыю немагчыма. У мінулую суботу Мірскі замак святкаваў сваё пяцісотгоддзе. Пяцьсот гадоў цяжкай барацьбы, пяцьсот гадоў змагання, але ён выстаяў. Менавіта ён — адзіны ў нашай рэспубліцы, які так добра захаваўся — падкрэслівае велічнасць нашай гісторыі. Сапраўдныя гаспадары краіны, якія шануюць сваіх продкаў, даўно б адрэстаўрыравалі гэты замак, прывозілі б сюды ўсіх школьнікаў, усіх замежных турыстаў і гаварылі б: мы такая ж еўрапейская краіна, як і ўсе нашы суседзі, мы маем такую ж багатую гісторыю. А ў дні юбілеяў тут збіраліся б сотні тысяч людзей і, пабыўшы каля гэтых старых сцен, яны б яшчэ больш любілі сваю Радзіму...

У мінулую суботу свята каля Мірскага замка адбылося. Многія госці дэманстратыўна хадзілі з гістарычнымі бел-чырвона-белымі сцягамі, а па ўсяму гарадскому пасёлку віселі зялёныя... Танчылі і спявалі самадзейныя артысты, ярка свяціла сонца, людзі купаліся і загаралі. Здавалася б, усё нармальна, але нейкая няўпэўненасць адчувалася ва ўсім. Так і чулася пытанне: куды ідзеш ты, Беларусь?..

## Народныя дэпутаты папярэдняга склікання аб ініцыятыве па правядзенню 14 чэрвеня сесіі Вярхоўнага Савета

***Як вядома, нядаўна была распаўсюджана інфармацыя аб тым, што Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь на чале з яго Старшынёй Мечыславам Грыбам, які, дарэчы, зноў абраны дэпутатам, выступіў з ініцыятывай аб правядзенні 14 чэрвеня сесіі Вярхоўнага Савета. На ёй, па меркаванню ініцыятараў, трэба разгледзець усяго адно пытанне — унесці змяненні ў Закон "Аб выбарах", якія б далі магчымасць пачаць работу "ўрэзанаму" новаму вышэйшаму заканадаўчаму органу і палегчыць выбары на дэпутацкія месцы ў парламенце, якія засталіся вакантнымі.***

***Мы папрасілі пракаменціраваць гэты факт некаторых народных выбраннікаў папярэдняга склікання.***

***Віктар ЧЫРУН, г.Гомель:***

### "Прывілеі патрэбны хіба толькі нямоглым"

— Да ідэі склікання сесіі Вярхоўнага Савета адношуся катэгарычна адмоўна. Нельга ж так рэзка кідацца ў крайнасці: то на пераправе коней не мяняюць, то грабі ў іншы бок.

Калі ўсё ж нехта хоча ўнесці змены ў нядзеючы Закон "Аб выбарах", то гэта павінна заставацца яго асабістым меркаваннем. Я ж лічу, што нічога мяняць не трэба. Ды і чаму мы 120 дэпутатаў выбіралі па адных правілах, а астатніх 140 будзем выбіраць па іншых, рабіць ім нейкія льготы. Прывілеі патрэбны хіба толькі нямоглым. Не магу пагадзіцца і з прапанаваным прадстаўніцтвам для пачатку работы сесіі, абазначаным лічбай 2/5. Яе ўзаконьванне трэба толькі што выбраным дэпутатам.

А ўвогуле ўдзел у выбарах для кожнага грамадзяніна павінен быць не толькі правам, але і абавязкам. Тады падобных сесій склікаць не давядзецца.

***Яўген ГЛУШКЕВІЧ, г. Віцебск:***

### "Закон "Аб выбарах" трэба змяніць"

— Па-першае, лічу, што сесію трэба склікаць неадкладна. Толькі непажадана зараз пераўтвараць пасяджэнне ў Авальнай зале ў сварку і фарс, а з улікам палітычнай сітуацыі прыняць разумныя рашэнні.

У першую чаргу неабходна знайсці магчымасць для правядзення выбараў у мясцовыя Саветы. Любой цаной знайсці для гэтага грошы ў дзіравай дзяржаўнай кішэні.

Я лічу, што выканаўчая ўлада, як ніхто іншы, павінна быць зацікаўлена ў існаванні прадстаўнічай улады. А для гэтага вертыкалі трэба стаць агітатарам і арганізатарам выбараў.

Што тычыцца нормы, абазначанай лічбай 2/5. Такое прадстаўніцтва дэпутацкага корпуса ў рабоце парламента пярэчыць Канстытуцыі. Прынядце такой нормы дазволіць 120 выбраннікам засядаць цэлых пяць гадоў. І другое. Па кворуму дзяржаўныя рашэнні змогуць прымаць усяго нейкіх 50 чалавек. Улада акажацца ў руках вузкага кола асоб. Я ўжо не кажу пра палітычную арыентаванасць новых выбраннікаў.

**Віктар ХАРОШКА.**

***Александр АБРАМОВИЧ:***

## "Нужно думать не столько о том, как быстрее новому парламенту приступить к работе, а о его легитимности!"

***После подведения предварительных итогов выборов в Верховный Совет Беларуси многие белорусские политики начали рассуждать о том, как выйти из создавшейся ситуации, когда новый парламент из-за отсутствия кворума не может приступить к работе, а старый не может уйти в историю, так как нового вроде бы и нет. Мы решили поинтересоваться, как оценивает происшедшее председатель Центральной избирательной комиссии Александр Абрамович.***

— Я считаю, что выборы в принципе прошли нормально. Большинство международных наблюдателей отметили в целом хорошую работу избирательных комиссий...

**—...Чего не скажешь о самой атмосфере выборов.**

— Безусловно, атмосфера выборов характеризовалась политическим противостоянием. Кроме того, некоторые международные наблюдатели говорили об односторонней ориентации или вообще отстраненности от выборов центральных средств массовой информации. С одной стороны, с этими замечаниями можно согласиться. Но с другой... Выборы-то у нас основаны на мажоритарной системе, и поэтому каждый кандидат имел реальную возможность проводить агитацию в рамках округа. И роль средств массовой информации применительно к каждому конкретному кандидату не имела принципиального значения. Хотя лично мне не понятно, почему, например, "Народная газета" за два дня до выборов выступила в поддержку лишь одного кандидата в депутаты, а о других в этот период не было сказано. Точно такие же, несколько односторонние материалы появились в "Советской Белоруссии", в "Рэспубліцы". Почему?

**— Александр Михайлович, Вы говорите о политическом противостоянии. Но какое же это противостояние, когда одна сторона проводила широкомасштабную пропаганду (газеты, радио, телевидение), а другая не имела никакой возможности ответить?..**

— Я считаю такую оценку предвыборной борьбы упрощенной. Я знаю одного представителя оппозиции, который в своем округе сумел провести на уровне собраний 157 встреч с избирателями. Этого достаточно, чтобы разъяснить свою позицию? Добавьте сюда еще пятиминутное выступление по радио, публикацию программы в местной прессе, листовки, предоставление месячного отпуска — этого тоже, видимо, достаточно, чтобы работать с тридцатью тысячами избирателей.

Другое дело, что очень многие кандидаты вообще не были готовы к депутатской работе. Я имею в виду не личные качества, а оцениваю их как специалистов, которым придется решать государственные задачи именно в сфере законотворчества. Сможет сразу парламент заработать нормально, если в нем будет большинство представителей, не имеющих опыта такой работы? Да что говорить о тех, кто избран. К нам сейчас приходят бывшие кандидаты, которые набрали всего по пятьсот—шестьсот голосов, и спрашивают, когда будут повторные выборы. То есть люди совершенно неадекватно себя оценивают. Я видел многих кандидатов, которые в последние предвыборные дни занимались своими делами, с выборами совершенно не связанными. Я могу утверждать, что значительная часть кандидатов даже те шестьсот тысяч рублей, что выделялись на агитацию, использовала неэффективно. Во всяком случае, очень многие даже листовки не отпечатали. Поэтому я еще раз хочу подчеркнуть, что собственную некомпетентность, неготовность к борьбе нельзя переводить на избирателей: мол, не тот народ, не та хата, в которую наша печь не влезла. Нельзя свои собственные ошибки сваливать на избирательные комиссии или просто на власть, как мы привыкли это делать.

**— Александр Михайлович, но ведь не будете Вы отрицать, что в последнее время старый депутатский корпус всячески оплевывался, у народа вообще подрывалось уважение к Верховному Совету. Разве это не повлияло на количество людей, принявших участие в голосовании? А тот же фильм "Ненависть" перед вторым туром, когда в который раз на людей обрушилась только одна точка зрения?..**

— Оппозиция ответить могла, но возможностей у нее, конечно, было явно недостаточно.

**— А тот факт, что одновременно с выборами проводился референдум, ведь он тоже повлиял на итоги голосования?..**

— Повлиял, безусловно, был привнесен определенный идеологический момент, который предопределил, возможно, частично и итоги выборов. Да много чего повлияло на итоги голосования. Но дело-то не в этом. Мы можем говорить об уровне массового сознания. А давайте посмотрим на позицию конкретного человека. Имел он возможность прийти на избирательный участок и проголосовать за того, за кого хотел?

**— Имел.**

— Так в чем же дело? На вас произвел впечатление этот фильм?

**— Нет.**

— И на меня нет. Более того, кто-то воспринял его резко негативно. Поэтому, наверное, нужно говорить о главном: выборы проходили в таких условиях, когда политические решения были почти полностью подвластны экономической ситуации, которые по отношению к рядовому избирателю сейчас просто безжалостна. Поэтому не надо удивляться, что многим кандидатам пришлось услышать слова: "Мы хотим, чтобы было как раньше, не надо нас ни за что агитировать!" Не секрет, что сейчас абсолютное большинство людей живут намного хуже, чем восемь—десять лет назад! Или это не так? Отсюда и закономерен результат. Люди голосовали за тех, кто обещал вернуть прежнюю жизнь. Плохо это или хорошо, но это факт.

**— Давайте поговорим о тех 120 депутатах нового парламента...**

— Во-первых, возможно, их будет меньше в силу того, что кого-то мы, может быть, не зарегистрируем. Во-вторых, ваша и некоторые другие газеты поступили не совсем правильно, опубликовав все фамилии возможных депутатов до принятия окончательного решения. К нам сейчас поступает очень много жалоб, и мы их оперативно рассматриваем. Надо сказать, что нарушения избирательного закона, конечно, были. Например, я должен отметить какое-то упорное непонимание сущности и правил составления и корректировки списка избирателей отдельными избирательными комиссиями. В одном случае мы уже признали выборы по этой причине недействительными. В другом округе комиссия после первого тура выборов провела коррекцию списка избирателей, то есть вычеркнула всех солдат, уволенных в запас. Но по закону списки составляются за пятнадцать дней до выборов, а уточняются перед повторными выборами, т.е. новыми выборами, а не перед повторным голосованием, что мы имели 28 мая. Они же взяли и вычеркнули всех уволенных солдат, и получилось, что выборы состоялись, а кандидат, кстати, военный, набрал при этом необходимое количество голосов. Естественно, наша комиссия на такие нарушения глаза закрывать не будет. Есть и другие нарушения. Все материалы, требующие специального расследования, мы отправляем на проверку в прокуратуру. А вообще, скажу честно, я поражен нашими кандидатами в депутаты. Приходит один и говорит: мне не хватило всего лишь четыреста голосов, но ведь большинство за меня. Не могли бы вы, в порядке исключения, отнять от проигравшего (он против не будет!) и дописать мне 474 голоса? Да Бог с ним, с этим простым человеком. Юрист один виднейший вчера приходил (не буду называть его фамилию) и тоже предлагал задним числом изменить количество избирателей, которое нужно для того, чтобы признавать выборы состоявшимися, и... зарегистрировать его депутатом.

(Окончание на 2-й стр.)

